Год III. Красавік № 4 (27)



# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".

Янка Купала.







ВІЛЬНЯ, 1931 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 4.



Да гэтага нумару далучаем ілюстраваны дадатак.

*Просім пашыраць «Шлях Моладзі» і прысылаць падпіску (грошы)!*


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр
„ на паўгода . . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год III. | Вільня, Красавік 1931 г. | № 4 (27). |
| --- | --- | --- |

# ЮР'Е.

*Загарэўся сыры бор*
*Ніваю Юр'я, ніваю...*
*(З беларускай народнай песьні*
*ў Сьвянцяншчыне).*

Дзень 23-га красавіка, кожнага году хрысьціянскай эры сьвяткуецца як памятка мучаніцкай сьмерці сьвятога Юрага. Шырэй аднак вядома гэта сьвята як народнае сьвята Юр'е. Граніцу паміж рэлігійна-хрысьціянскім і народным характарам гэтага сьвята правесьці даволі трудна, бо культ Юр'я вельмі шырокі і багаты, а што йшчэ дзіўнейшае: яго знаюць і практыкуюць ня толькі ўсе народы хрысьціянскія, але нават магамэтанскія (Арабы) і паганскія (Асетынцы).

Сьвята-Юраўскі культ паўстаў на Ўсходзе і стуль пашыраўся на Заход. Знаюць яго сяньня ўсходнія славяны (між імі і Беларусы), знаюць заходнія (Чэхі) і паўдзённыя (Баўгары), знаюць Немцы, Італьянцы, Французы і нават далёкія Англічаны. Кожны з гэтых народаў надаў Сьвята-Юраўскаму культу свой собскі характар, а няхрысьціянскія народы перанясьлі на яго нават розныя рысы сваіх паганскіх бажышчаў: пэрскага Мітры, сэміцкага Таммузы, эгіпскага Горры... Успомненыя ўжо Асетынцы сьвяткуюць Юр'е як сьвята свайго бажышча Уастырджы, а мусальманы — як Хызр, Кедэр. Апрача гэтага Юраўскі народны культ сваю паўсюднасьць заўдзячае і свайму нават іменьню, якое ў грэцкай мове, як „Георгос“, азначае гэтулькі, што наш „земляроб“. Таму сьв. Юры ў народзе лічыцца апякуном земляробства і гадоўлі ўсякай свойскай жывёліны. Блізу па ўсім сьвеце Юр'е абходзіцца вясной, хоць Расейцы напр., апрача вясьнянага Юр'я 23-га красавіка, знаюць яшчэ і Юр'е восеньняе, 26-га лістапада.

На Беларусі Сьвята-Юраўскі народны культ знаем толькі вясьняны. Ён уваходзіць у лік сьвяткоў вялікодных і славіцца як вясьнянае заклканьне расы.

Ува ўсім народным Сьвята-Юраўскім кульце постаць самога Юрага ёсьць калі ня мітам, дык напэўна асобай легендарнай. Тут гэтага сусём хапае і... ўсё ў парадку.

Іншая сусём рэч пры сьвяткаваньні Юр'я ў значэньні рэлігійна-хрысьціянскім. Тут легенды не хапае, тут патрэб-

ны гістарычныя факты. А фактаў гэтых шмат ня маем. Ведаем толькі, што Юры паходзіў з Малой Азіі, з краю Кападоцыі і жыў пад канец 3-га веку. Быў з багатага роду і як здольны вайсковы, будучы маладым яшчэ юнаком, стаўся прыбочным тагочаснага рымскага цэзара Дыоклецыяна. Сьветлы й вялікі дух Юрага бунтаваўся супроць гнілога паганства: Юры стаўся хрысьціянінам. А ня могучы служыць двум багом адначасна, адмовіўся ад службы паганскаму цэзару і адкрыта прызнаўся, што верыць толькі ў Хрыста. Ведаў добра Юры, што яго за гэта чакае і гэтага дачакаўся: 23-га красавіка 303 году Юры быў сьцяты мечам, а галава Ягоная перахоўвуецца ў касьцеле гэтага-ж імені ў Рыме. Ужо пры экзэкуцыі меліся дзеіцца цуды і таму ў сто гадоў па сьмерці Юрага, Ён прызнаны ўжо быў сьвятым і ў ягоную чэсьць будаваліся сьвятыні і закладаліся розныя таварыствы.

Аб жыцьці й сьмерці сьвятога Юрага захавалася да нашых часоў шмат і шмат легендаў. Яны аднак толькі легенды. Паміж імі і знаная легенда аб дзяўчаці і зьмяі (дракане), паслужыўшая за матыў да ведамага абраза, дзе сьвяты Юры дзідай прабівае зьмяя, вечна быццам непакоіўшага пэўную старонку і трэбуючага сабе ў ахвяры людзкіх дзяцей...

Як ні мала маемо запэўненых вестак з жыцьця св. Юрага, іх ўсё-ж хапае на тое, каб уявіць сабе духовую веліч і красу гэтага нязвычайнага Дзяцюка. Ягоная воля ў шуканьні праўды і адвага знойдзеную праўду бараніць — сапраўды будуючыя, а ў сягоньняшнія часы безхарактэрнай памоўзласьці—ў параўнаньні і насьлядаваньні бязпрыкладныя.

Ня дзіва пасьля гэтага, што ўва ўсіх народаў сьв. Юры быў і ёсьць патронам сьмелых пачынаньняў у вялікіх і сьвятых справах. Для нас Беларусаў, асабліва моладзі, найвялікшай сяньня справай ёсьць справа **маральнага разросту**, патронам якога можа, а палюдзку думаючы і мусіць быць **сьвяты Юры.** Раз дзеля таго, што культ Сьвята-Юраўск аднолькава вядомы Беларусам, як каталіком, так і праваслаўным, а другое — першыя пачаткі беларускай рэлігійна-адраджэнскай работы былі пачынаны пад патронатам іменна св. Юрага, як аб гэтым нязьбітна сьведчыць захаваўшаяся з тых часоў у Вільні беларуская харангеўка з абразом гэтага-ж Сьвятога.

# Ідэал грамадзкай працы.

Кожны бадай чалавек, а перадусім малады, імкнецца да лепшага. Імкненьні — ідэалы гэтыя бываюць рожныя. Адны маюць сабе за ідэал здабыць маемасьці матэр'яльныя, другія—высокае і слаўнае становішча, іншыя ўзноў ідуцца

працы на ніве грамадзкай, дзе ў арганізацыях: культурных, гаспадарчых, ці палітычных працуюць над палепшаньнем быту пэўнае групы людзей, народу, або нават і цэлай людзкасьці.

Для беларускай моладзі з усіх гэтых трох ідэалаў найбольш можа падходзіць апошні — гэта ідэал грамадзкае працы. Ідэалам грамадзкім беларускім зьяўляецца прадусім падняцьце культуры, усьведамленьне цёмных і нясьведамых беларускіх мас — сялянства. На гэтай-жа ніве ёсьць шмат працы і шмат трэба працаўнікоў.

Дзеля гэтага беларуская сьведамая моладзь павінна праводзіць усьведамляючую працу і згуртаваўшыся ў сваіх арганізацыях, напрыклад у Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры, рабіць работу культурную, узгадовываючы малодшае пакаленьне ў духу нацыянальна-беларускім незалежніцкім.

У часе такое самадзельнае працы выяўляюцца адзінкі больш і менш здольныя, больш і менш ідэйныя. Пры гэткай працы паўстае часта так званая рывалізацыя, якая мае і благія свае староны, з якімі мы павінны змагацца. Гэтымі ад'ёмнымі рысамі рывалізацыі бывае тое, што натвараецца многа кіраўнікоў-правадыроў, а вельмі мала працаўнікоў. Бязумоўна, ня ёсьць злом дабівацца кожнаму грамадзяніну да павадырства, наадварот, — кожны чалавек павінен ісьці да таго, каб магчы быць павадыром, толькі трэба, каб гэта імкненьне было здаровае. Каб ня было ў гэтым, гэтак званага „кар'яроўства“.

Дзеля гэтага кожны грамадзянін, які хоча быць правадыром, павінен мець пэўныя да гэтага здольнасьці і адпаведнае прыгатаваньне.

Вучоны і грамадзкі дзеяч Е. Г. Вілкінс Оберлін напісаў правілы для павадыроў, якія з прычыны іх вартасьці для самаўзгадаваньня варта ўзяць пад развагу.

Паводле іх кожны павадыр павінен мець:

I. 1. Здольнасьць супольна працаваць, 2. этычнасьць характару, 3. вера ў навуку, 4. здольнасьць быць карысным, 5. умеласьць прадбачаньня, 6. таварыскасьць;

II. 1. здольнасьці тэхнічныя, 2. умець дакладна дасьледжваць жыцьцё, 4. вытрываласьць, 5. сілу канцэнтрацыі, 6. умеласьць знайсьці пасярэднюю дарогу, 7. умеласьць другіх зацікавіць, 8. здольнасьці ініцыятывы, 9. здольнасьць умець правільна думаць;

III. 1. трэба быць здаровым; 2. мець адпаведны выгляд; 3. мець таварыскія нахілы.

Апрача гэтага, дададзём ад сябе — бязумоўна трэба быць добрым сынам свайго народу і свае бацькаўшчыны.

**Я. Н.**

# Крыху з нашай гісторыі.

## Стварэньне славянскіх дзяржаваў.

Ужо ў старадаўныя часы Славяне так пашырылі свае аселішчы, што агромныя тэрыторыі ўсходняй і сярэдняй Эўропы былі занятыя імі. Але, ня гледзячы на тое, што лічэбная і тэрыторыяльная большасьць Славянская перавышала сваіх суседзяў — неславянаў, аднак апошнія часта нападалі і ўціскалі Славянаў.

Перадусім у старадаўнасьці непакоілі Славянаў Манголы і Гэрманы.

Хаця Славяны лічыліся даволі ваяўнічым народам, аднак часта ў барацьбе з непрыяцелям былі перемаганыя. Няўдача Славянаў у барацьбе крылася ў тым, што яны не былі арганізаваны; ня мелі дзяржаўнага апарату, ня мелі арганізаванага войска. Самыя абставіны жыцьцёвыя і патрэба абароны занятых тэрыторыяў змусілі іх арганізавацца, хоць у прымітыўнай форме. Трэба зазначыць, што тыя плямёны, якія нападалі на Славянаў, г. зн. Манголы, Гэрманы, Авары і інш., хоць былі дзікімі плямёнамі, але былі зарганізаваны і сталых тэрыторыяў не трымаліся, але перакачовывалі з месца на месца, забіраючы і падбіваючы штораз новыя тэрыторы, грабячы і ўціскаючы насельніцтва.

І вось прышоў час, калі і Славяне ўбачылі прычыну сваіх няўдачаў у змаганьні з напасьнікамі — г. зн. зразумелі сваю неарганізаванасьць.

І пасьля таго, як над ніжнім Дунаем Баўгары захапілі Славянаў, палі ахвярай панонскія Славяне, которых забралі дзікія Авары, а ўціск якіх і прычыніўся да ўтварэньня першай славянскай дзяржавы, якой тварцом быў Само. Вядома аб ім толькі тое, што ў палове VII в. зарганізаваў ён з некаторых заходніх і паўдзённых плямёнаў даволі вялікую дзяржаву, якая знаходзілася пераважна на тэрыторыі сяньнешніх нямецка-аўстрыйскіх краёў.

Процiў Славянаў таксама варожа выступілі князі баварскія, якія прыняўшы хрысьціянства ў пачатку VII в. пачалі падбіваць Славянаў быццам з мэтай пашырэньня сярод іх хрысьціянства. Сяньнешнія аўстрыйскія і югаславянскія краі тварылі ўжо тады даволі вялікую славянскую дзяржаву, якая называлася карутанская, а якую насялялі Славэнцы. Аднак Бавары зьнішчылі гэту дзяржаву і Славэнцаў ужо ў VIII в. сьціснулі ў такія цесныя граніцы, у якіх і сяньня яны знаходзяцца.

Не ад рэчы будзе тут успомніць і дзейнасьць Караля Вялікага, якая ў тыя часы была карыснай для Славянаў. Справа ў тым, што Кароль Вялікі змусіў некаторыя сумежныя плямёны Славянскія да прызнаньня сваей улады і гэтым аб'яднаў іх і ўзмацніў.

Трэба аднак ведаць, што Кароль Вялікі запанаваў толькі над некаторымі паўдзённымі плямёнамі славянскімі, гэ-

тыя-ж плямёны яшчэ і ў гэны час мелі клопаты з наезьнікамі. Король В. запанаваў над Славэнцамі і панонскімі Славянамі. Вось у гэты час панонскія Славяне, набраўшы сілы, кінуліся на даволі ўжо аслабленых Авараў і разьбілі іх цалком. У традыцыі паўднёва-славянскіх плямёнаў доўга жыла памяць Караля Вялікага, як магутнага манарха.

Калі дзяржава Караля Вялікага разваліласа, то і ўлада дзяржавы франконскай спынілася над Славянамі. І тольκі Славэнцы засталіся далей пад уладай каралёў нямецкіх, якія нават на іхных землях стварылі княства нямецкае Карынтыі.

У IX веку паўстае чаргова другая дзяржава славянская-вялікамараўская. Гэта дзяржава, дзякуючы змаганьням з Немцамі, дайшла да такой магутнасьці, што з часам ахапіла даволі вялікую частку Уграў, Маравы, прылеглыя ваколіцы Ніжняй Аўстрыі і частку польскіх зямель. Уладу іх прызнавалі над сабой Чэхі і некаторыя надлабскія плямёны. Аднак у пачатку X в. распалася гэта вяліка-мараўская дзяржава з прычыны тае, што ўсходня-франконскі цар Арнульф пры помачы Уграў разьбіў яе.

Пасьля развалу вялікамараўскай дзяржавы здабылі незалежнасьць чэскія плямёны, якія ўперад падлягалі тэйжа дзяржаве. Але калі добра даліся ім у знакі вуграўскія напады, тады чэскія ваяводы прызналі ўладу нямецкіх каралёў. Аднак супакою ў краі і цяпер ня было, бо часта з тых ці іншых прычынаў адбываліся ўнутраньнія змаганьні. І вынікам усіх дамашніх непаразумленьняў было тое, што тое племя Чэхаў, якое было пасяліўшыся ў ваколіцы сяньняшняй Прагі, падпарадкавала пад сваю ўладу ўсе іншыя плямёны. Вось ад гэнага племя Чэхаў і перайшла назова на цэлы край, якім валадалі даўнейшыя ваяводы чэскія Пшэмысліды, якія пасьля сталіся князямі. Бачым, што арганізаваньне чэскае дзяржавы адбывалася ў працягу X ст.

Зусім у іншых абставінах тварыліся дзяржавы Усходніх Славянаў. Грамады скандынаўскіх вікінгаў, якія праз цэлы IX і X в. і яшчэ ў пачатку XI в. грабежнымі нападамі даваліся ў знакі цэлай Эўропе заходняй, дзе нават заснавалі цэлы чарод палітычных арганізмаў, тымбольш не шкадавалі бліжэйшых ім тэрыторыяў, г. зн. узьбярэжжа балтыцкага. Яны пасоўваліся ў глуб прыбярэжных краёў і далей на Усход воднымі шляхамі. Найважнейшым іхным шляхам была Дзьвіна, а таксама Нарва і Нява. Гэтымі шляхамі яны даставаліся аж да Дняпра і такім чынам аж да Чорнага Мора. Русы, ці як іх Славяне называлі Варагі даваліся ў знакі ўсходня-славянскім плямёнам з пачатку як корсары, а пасьля сталіся купцамі. Праз нейкі час Варагі на землях славянскіх стварылі славянскую дзяржаву, якой цэнтрам быў Вялікі Ноўгарад. Ступянёва захаплялі яны штораз новыя тэрыторыі славянскія і з часам перанясьлі сталіцу ў Кіеў.

М. Пяцюкевіч.

# Літэратурны аддзел.

## ЗЬВЯСТУН ВЯСНЫ.

Вясна, вясна ў краі маім!...
Зьвястун вясны ўжо прыляцеў
І звонкім голасам сваім
У паднябесьсях зазьвінеў.
Яшчэ ў палёх мы бачым сьнег,
Зазімкі страшаць — халады,
Яшчэ заводзяць яны сьмех
І накідаюць шмат нуды.
Ды грэе сонца над зямлёй,
Зьвястун вясны зьвініць, зьвініць,
А радасьць дзіўная—настрой
З ягоным звонам ўніз ляціць.

**Сяргей Жалюбчык.**

## СОНЦА.

Ясна сонца сьвеціць з неба,
Ня мінае і наш край;
Роднай мовы нам патрэба —
Каго толькі ня спытай.
Нам і школы роднай трэба,
Якбы сонейка з нябёс,
Асьвяціць старонку цёмну
І палепшыць яе лёс.
Мы забіты цемрай вечнай
І ня бачым век сьвятла
Усе людзі з нас сьмяюцца
І ня робяць нам дабра.
Дык-жа возьмемся да працы
Ліхату і цемру гнаць;
Як асьвецім край свой родны —
Ўсе нас будуць паважаць.

**С. М.**

## СЬНЕГ.

Я помню, раз маці спытаўся,
Скуль падае сьнег на зямлю,
Скуль ён на небе узяўся,
Ды чаму я яго так люблю.

Слухай — мне маці сказала —
Вось бачыш лязурную даль,
Дзе божа рука накідала
Зорак гарачых вугаль;

За зорнай краінай шырока
Нябесны раскінуўся сад,
Ў ём дзевы жывуць адзінока —
Яны пасуць божых ягнят.

І вось, калі Бог зажадае
Дыванік пад ногі паслаць,
Дык дзева ягнё абстрыгае,
Каб сьнежну тканіну саткаць.

І вось дзевы сядуць за воўнай,
Перш песьню адна завядзе,
За ею усе хорам згодна,
А кожная нітку прадзе.

З рук іх часамі ваўнінкі
Вырвуцца нейк незнарок —
Тады людзі кажуць: сьняжынкі
Падаюць з шэрых ваблок.

**Б. Кляпацкі.**

* * *

Песьні каханьня, вы — птушкі,
Ляціце да мілай маёй...
Пасядзьце вяночкам — істужкай
Над сьветлай яе галавой ..

Загляньце, ці чыстыя вочы
Сінеюць прасторам нябёс?
Ці песьняй калосьсяў шапочуць
Зьвіткі яе хваляў — валос?

Бо вобраз ўсьцяж сьніць няма сілаў...
А смутак мне сэрца спавіў
Ляціце-ж, ганцы, — к маёй мілай
Абшарам разлогаў і ніў...

**Хв. Ільляшэвіч.**

## Я НЯ ЗМОЎКНУ...

Я ня змоўкну, бо мне думкі
Ўсюды голас падаюць;
Бо узоры і малюнкі
Родных вёсак, песень ждуць.
Песень з імі аднатонных,
Зразумелых для усіх,
Песень вольных, няпрыгонных,
Песень родных, ня чужых.

Покі сьлёзы з вачэй бьюцца —
Сэрца трошкі адпачне,
Так-жа й песьні, як пяюцца —
Жаль душы ў той час міне

Дык няхай зьвініць — сьпявае
Родных, вольных, песень хор,
Хай-жа рэхам напаўняе
Наш заглушаны прастор.

**Юльян Сяргіевіч.**

* * *

Хоць ня маеш цяперака сілы
Парваць путы народнай зямлі,
Але шчыра працуй да магілы
І пабачыш, што будзе тады.

Як змагацца ты будзеш за волю,
Праўду сеяць ў старонцы сваей, —
На падмогу табе прыдзе болей
Паднявольных, працоўных людзей.

Ты жыві так, як іскра вось тая,
Што дзесь тліцца, гарыць дзень-ад-дня,
Але жарам усё ахапляе
І зьністожвае ў моцы агня.

Ідзі прыкладам іскры агністай —
Спаліш путы на роднай зямлі
І засьвеціць зноў блеск прамяністы,
Зноў пачнуцца вясёлыя дні.

**І. Ярошка.**

## ПАКІНЬ МЯНЕ...

Пакінь мяне, цяжкая хваля суму,
Пакінь душу маю магільна спавіваць.
Нашто ты рвеш маю сьвятую думу,
Калі хачу я песьні радасьці пяяць.

Ляці, туга, ляці сваей дарогай,
Мне вельмі нудным ёсьць твайго маўчаньня рой,
Я — сонца сын, сын прышласьці прыгожай,
Пакінь, забудзь мяне, ты-ж бачыш, я — ня твой!

**В. Шкодзіч.**

# Ілюстраваны дадатак да „Шляху Моладзі“ № 4 (27).



Вітаўт Вялікі, Князь Літоўска-Беларускі,
ад сьмерці якога мінула ў прошлым годзе
500 гадоў.



Кс. А. Астрамовіч — А. Зязюля, беларускі паэт ад сьмерці якога (†1921 г.) мінула сёлета 10 гадоў.



Ведамая амэрыканская лятунка Элінор Сміт хацела ўстанавіць новы рэкорд высокасьці ўзлёту для жанчын. Аднак, на вышыні 8000 мэтраў, аэраплян яе страціў раўнавагу і пачаў падаць. Ня гледзячы на гэта, лятунка выраўняла аэраплян і счасьліва зьнізілася, зарываючыся толькі носам апарату ў зямлю, што відаць на фатаграфіі. У левым вугле фатаграфіі Э. Сміт.



Англійскі прэм'ер міністраў Мак Дональ з дачкой у сваём летнішчы.





Тітулеско Міронэско

Румынія перажывае ўрадавы крызыс, урад Міронэскі падаўся ў адстаўку, новы ўрад арганізуе Тітулеско.





На днях англічаніну К. Даўну ўдалося ўстанавіць новы ўсясьветны рэкорд на маторнай лодцы „Міс Энгляд II“, праплыўшы 166,5 кілямэтраў у 1 гадзіну. На фатаграфіі злева: К. Даўн, справа: лодка „Міс Энгляд II“.

**Вольная Трыбуна.**

# Адказы і ўвагі на пытаньне: Якімі літарамі маемо друкаваць „Шл. Моладзі“.

*Зьмяшчаючы адказы і ўвагі ў справе так важнага пытаньня, якімі літарамі маемо друкаваць „Шлях Моладзі“, паважаным аўтарам даем поўную свабоду выказываць іх думкі.* РЭДАКЦЫЯ.

11.

На маю думку, дык усе чатыры пункты, паданы рэдакцыйнай калегіяй у астатнім нумары адносна друку „Ш. М.“ не падходзяць. Друкуючы выключна гражданкай, ці выключна лацінкай час. „Ш. М.“ не дасягае свае мэты. Прычыны ясныя таго. Што-ж датычыць друкаваньня „Ш. М.“ у вадным нумары гражданкай і лацінкай разам, або нумар так, а нумар гэтак, дык гэта проста недарэчнасьць, бо хто гражданкі ці лацінкі ня ведаў, той і ведаць ня будзе і адно прачытае, а другое не. Тут патрэбна саманавучаньне.

На маю думку „Ш. М.“ трэба друкаваць так, як калісь друкавалася „Наша Ніва“ і гражданкай і лацінкай, а высылаць па жаданьню, як хто захоча. Гэта сяньня найлепшы шлях да разьвіцьця і дасягненьня мэтаў час. „Шлях Моладзі“.

Я. Г-к

пав. Нясьвіскі, 18 год, праваслаўны, вучуся рамясла.

12.

Пакульшто мы можам зьбіраць свае сілы дзьвюма азбукамі, але ў будучыне, як мне здаецца, у нас павінна быць адна азбука, а гэта з майго погляду гражданка, як больш прасьцейшая і як мы ўжо лічым яе сваею; мне яна лепш падабаецца і я ў ей бачу штось пераможнае.

В. Саўчыц

пав. Косаў Палескі.

13.

„Шлях Моладзі“ друкуйце тымі літэрамі, якімі напісаны арыгінал. Гэта будзе прыемна і аўтару і чытачу, дзеля каторага пісаў аўтар.

Гражданка мае большае права на карыстаньне, чым лацінка. Калі хто захоча вясьці якую небудзь прапаганду паміж беларусаў, дык заўсёды, альбо пераважна будзе ка-

рыстацца гражданкай. Лацінка і надалей будзе служыць для каталікоў.

Культура чалавека, а гэтак сама і народу залежыць не ад гражданкі ці лацінікі, але ад духу таго, што друкуецца.

Ключановіч
Пінск.

14.

У нас (Сакольшчына, Сідраўская гміна), жыхары мяшаныя—каталікі і праваслаўныя. Першыя лічаць сябе па сваей нясьведамасьці палякамі, бо так вучаць іх у касьцеле, іх да беларускай літэратуры трудна прылажыць, а асабліва да гражданкі; ім вельмі праціўная руская абэцэда, што ня можна прачытаць, а як дасі гражданкай, то таксама бяда, каб друкавалася чыста па расейску то кажа прачытаўбы і зразумеўбы гэту газэту. Агулам тутэйшыя беларусы каталікі выракаюцца сваей дзядоўскай мовы, каторай самі гавораць і цяпер, бо па польску ня ўмеюць і сьмяюцца ў вёсцы з таго, хто скажа хоць адно польскае слова; паказываюць на яго пальцамі, а як скажаш пра Беларусь, пра родную беларускую газэту, то адварачываецца. Так дзеецца дзеля нясьведамасьці.

Цяпер возьмем праваслаўных: моладзь і старэйшых сялян. Праваслаўная моладзь адносіцца да беларускасьці прыхільней і трохі спагадае сваей роднай літэратуры, ды зноў бяда — моладзь да 16 гадоў ня ўмее чытаць гражданкай, бо ня было дзе вучыцца.

Але хто мае ахвоту пазнаць і навучыцца, то навучыцца, і сапраўды — большы процант моладзі праваслаўнай умеець і гражданку, хоць вучыцца ў польскай школе. Навучыліся яны ад старэйшых.

Калі ўзяць старэйшых праваслаўных сялян нашых, то ім сьніцца Расея, каб ім па расейску ўсё было! Як чытаеш якую беларускую кніжку, ці газэту, то слухаюць ахвотна, а як дасі яму самому чытаць, то кажа — дальбог нічога не „панімаю", каб па расейску, то ўсё зразумеўбы. Дык з майго погляду трэба, каб выходзіў „Ш. М." або выключна гражданкай або так: у вадным нумары гражданкай і лацінкай разам.

К. Паплаўскі
Сакольшчына, праваслаўны, сьлёсар.

15.

Беларусы каталікі будуць да пасьледняга стаяць за лацініку, бо як быць прыхільнікам гражданкі, калі яе ўжывае Масква, якая была і ёсьць ворагам Рыму! Выбачайце, што нам Масква і Рым? Ведаем, што маскоўскія ўлады ўці-

скалі Беларусь. Ці кравуў Рым пальцам, у той час, у абароне хоцьбы беларусаў каталікоў? Сягодня мы знаходзімся пад уладай „Загаду“ і яго культуры. Што мы маем? Нават сьмешнымі становяцца тыя фразы вучоных багасловаў каталікоў, што стаяць за лучнасьць з нейкай „заходняй“ культурай! А можа з увядзеньнем лацінікі наш беларус адразу будзе чытаць Віргілія, Цэзара і др. Адразу пачне разумець Заходня-эўропэйскія мовы? А можа культурныя Эўрапэйцы зразумеюць нашы творы, друкаваныя лацінікай?

„Бел. Крыніца“ пачала друкавацца гражданкай выключна на жаданьне элементу праваслаўнага. Крыху ды ня так! Варта толькі прыпомніць тыя нумары „Бел. Крыніцы“, у якіх абгаварвалася справа зьмены друку, ясным стане зусім другое, з якім у поўні салідарны. Бо-ж намарна пашлі працы Кастуся Каліноўскага і лёзунгі „Вольны з Вольным.. і — за „Нашу і Вашу Волю...“) Дык няма чаго так хутка адгараджвацца кітайскім мурам ад Масквы і ліпнуць да Захаду — бо першая, хацяя мушу з жалем прызнаць, уціскае ўсё нацыянальнае, але нешта дала, а гэты „Культурны Захад“ нават казаньняў у беларускай мове не дазволіў. Даволі Жодзішак. Многа можна сказаць, але думаю, што кожны добры беларус, хоць і каталік, асабліва з Жодзішак, зразумее мяне, як абаронцу беларускае гражданкі, урэшце-ж беларус яе з кірыліцы пераправіў у часы Пётры І. Даволі хацябы гэтага ў абарону гражданкі.

М. Ж.

16.

Мне здаецца, што лепш, каб „Шлях Моладзі“ друкаваўся гражданкай, бо амаль кожны стары чалавек, каторы вучыўся перад вайной, знаёмы з гражданкай, а калі ён каталік і знае лацініку, дык гражданку тым больш ведае. Калі-ж сказаць аб больш маладым пакаленьні, каторае вучыцца папольску, то калі яно змагло вучыцца ў мала знаёмай яму мове, а то і саўсім незразумелай, дык тым бардзей яно зразумее надрукаванае слова ў сваей роднай мове.

Вучань зразумеўшы столькі навукі, давуча гэтых незнаёмых яму літараў 15 за адзін-два вечары і будзе чытаць гражданку, а зрабіць гэта старому чалавеку даволі цяжка.

Г. Прадухо, Маладэчанскі пав.

17.

Працуючы ў мінулым годзе на ніве грамадзкай, пераехаў я праз наступныя паветы: Ашмянскі, Шчучынскі, Сьвянцянскі, часткова Лідзкі, Браслаўскі, Дзісьненскі, Пастаўскі і Валожынскі. Тут заўсёды большую роль ў жыцьці штодзенным адыгрывае лацінка. Кожнаму ведама, што беларускі друк — гражданка, але жыцьцё сяньня паказвае, што з моладзі мала хто гражданку разумее. Вось-жа дзеля

таго, што „Ш. М.“ пасьвячаецца выключна для моладзі, а беларускую моладзь трэба ўзгадаваць у духу беларуска-нацыянальным, культурна-грамадзкім і хрысьціянскім — неабходна друкаваць „Ш. М.“ лацінкай. Лацінка патрапіць захапіць у рады барацьбітоў за беларускую справу сотні тысяч беларускай моладзі. Іншыя газэты могуць друкавацца і мусяць гражданкай; ад гражданкі адыйсьці ня можна. Моладзь, якая будзе чытаць „Ш. М.“ лацінкай і будзе праз „Ш. М.“ узгадавана, будзе сама праз сябе вучыцца і гражданкі. Паводле майго разуменьня „Ш. М.“ друкаваць трэба выключна лацінкай.

**Я. Ярмалковіч.**

Селянін і працаўнік грамадзкі 25 г.

18.

Пераходзіць зусім з гражданкі на лацінку ў сучасны мамэнт ня можна, бо: а) большая часьць сталейшай моладзі, выгадаваная ў расейскіх школах, ведаець толькі гражданку; б) дасюлешнія літэратурныя і навуковыя здабыткі друкаваныя амаль што выключна гражданкай і трэба прывучаць моладзь да гражданкі (тую моладзь, якая яе ня ведае), каб яна магла карыстаць з гэтых здабыткаў).

Але бяручы ізноў пад увагу тое, што: а) усёжтакі трэба было-б навязываць як мага цясьнейшы кантакт з культурным сьветам (што робіць лацінка); б) вялікая часьць беларусаў пад Польшчай — каталікі; ц) у Заходняй Беларусі ад даўжэйшага часу вядзець сваю працу польская школа, і яна сваю пячаць на моладзі бязумоўна паложыць, а перадусім, — не навучыць гражданкі, — я лічу, што пераважаючай абэцэдай „Ш. М.“ павінна быць гражданка, але менш важныя стацьці, а асабліва стацьці, весткі і іншы матэр‘ял, адносячыся больш да моладзі каталіцкай веры трэба друкаваць лацінкай. Можна было-б пісьмы з вёсак друкаваць такой абэцэдай, якой іх пішыць аўтар.

Так друкаваная часопісь амаль што ня зьменіць свайго вонкавага выгляду, а адначасна больш будзець прыцягіваць моладзь каталіцкай веры, і будзець прывучаць да гражданкі нашых малодшых сяброў, ня ведаючых яе.

Яшчэ адна ўвага можа крыху і не на тэму: калі-б у „Ш. М.“ нешта друкавалася лацінкай, трэба было-б аканчальна і назаўсёды разьвітацца з громоздкім w, а заместа яго ўжываць V. Літара W ў беларускай мове і непатрэбная (як напр. патрэбная ў нямецкай і ангельскай, і ня мае ць традыцыйнага права (якое ёсьць у польскай мове); яна трапіла ў беларускае пісьмо проста праз няўвагу, ці недагляд нашых папярэднікаў пры застасаваньні лацінкі, і яе трэба ў канцы канцоў закінуць.

Чытач „Ш. М.“ — V. Т.

# Лісты.

## НЯ ЧУРАЙМОСЯ СВАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ!

**Глыбокае,** Дзісьненскага пав. Часта здараецца, што ў часе перапісяў ці вайсковае рэгістрацыі, нашая моладзь ня мае адвагі прызнацца да свае беларускае нацыянальнасьці, што вельмі ёсьць для нас некарысным, бо калі мы будзем пісацца палякамі, то непрыяцелі нашыя будуць гаварыць, што беларусаў няма. Бываюць яшчэ і такія выпадкі, што калі хто хоча запісаць правільна сваю нацыянальнасьць, то яму ў гэтым перашкаджаюць.

Было напрыклад так 16 траўня 1930 г. у Глыбокім падчас вайсковае камісіі (здачы).

Маёр К. запытаў у хлопца Б. К., да якой належыць нацыянальнасьці. Той адказаў, што да беларускае. Тады маёр са злосьцяй заявіў хлопцу, што як ён, будучы каталіком, можа прызнавацца да беларускасьці, гэта-ж кажа стыдна, беларусаў каталікоў няма. Але хлапец ня спужаўся і не пастыдаўся, а сьмела заявіў маёру, што ён хоць каталік, але беларус па нацыянальнасьці і яе не зрачэцца, і што маёр мыляецца, думаючы, што каталікоў беларусаў няма, бо ў нашым краі ўсе бадай каталікі-беларусы. Пачуўшы гэта, маёр запісаў хлопца Б. К. па нацыянальнасьці беларусам.

Таксама ўсёй нашай моладзі трэба стаяць за праўду і ўсюды зазначаць, што належыць да нацыянальнасьці беларускай. Асабліва аб гэтым павінны памятаваць хлопцы, ідучы і сёлета і ў наступныя гады на вайсковую „пабаровую“ камісію. Ня трэба слухаць ніякіх гутарак, а толькі стойка дамагацца, каб быць запісаным беларусам.

Тое самае павінна быць і ў жыцьці штодзенным: ня можна забываць свайго і нельга свае нацыянальнасьці стыдацца, бо яна ня горшая ад іншае, напрыклад польскае. Нельга так-жа чурацца сваей мовы. Трэба ўсё свае шанаваць, бо тады толькі і нас будуць шанаваць.

Карболь.

## УСЁ-Ж ТАКІ ЎГАВАРЫЎ.

**Барадзенічы,** Браслаўскага пав. Ня так даўно прыбыў у гэту вёску вучыцель, польскі патрыёт, і пачаў закладаць польскія арганізацыі, з пачатку закладаў „Strzelca“, але не ўдалося. Цяпер-жа стараецца ўсялякімі спосабамі залажыць „Кола Млодзежы Вейскай“. У гэтай сваей працы ўжывае ён усялякіх спосабаў: абяцае, што сяброў „Кола“ павязе дарма ў Варшаву і рай пакажа і што, адным словам, вывядзе ў людзі... Разумнейшая аднак наша моладзь знаецца на гэтым і не запісваецца ў гэтае „кола“, а розныя таўкачы, якія ня могуць самі сабой пакіраваць, лезуць і запісваюцца. Але здаецца ня шмат і гэтых набярэцца.

Тутэйшы.

# Куток для спорту.

Вясна. Усюды на гімнастычных плошчах заварушылася. Кожнае гімнастычна-спартовае таварыства прабуе свае сілы, падлічвае сяброў, лятуціць аб падыходзячых выйграшах у заводах.

Моладзь цешыцца і гатовіць свае мясьні да паступаючых натугаў... Але ня мы, беларуская моладзь: гэта цешыцца і прыгатаўляецца моладзь загранічная ў спартовыя таварыствы, апольскія.

Нам беларусам гэта немагчыма. Вось летась віленская беларуская моладзь зарганізавалася ў гімнастычна-спартовае таварыства пад назовам „Гайсак" і падала свой статут да легалізацыі ў ваяводзтва.

Пан ваявода Рачкевіч „raczył" статуту не залегалізаваць, не падаючы прычын. Т-ва адклікалася да міністэрства ў Варшаву і чакае ўжо хутка год.

Дык што-ж мы, беларуская моладзь, у кірунку спартовым будзем бязьдзейнымі?

Не, браты!

Захавайма глыбока ў сэрца нашу крыўду ды панатужмася фізычна і духова, гартуймася да ўсіх нявыгодаў і будзьма прыгатаванымі на тое, што яшчэ будзе горш.

Не даюць нам арганізована разьвівацца фізычна, трэба гэта рабіць саматугам; гэтага нам ніхто ня ў сілах забараніць.

Прыдзе нядзеля, або сьвята; замест смакаваць самагонку ды іграць у карты, лепш выйсьці грамадою на вольнае паветра дый пакачаць кацёлку, ці загуляць у якую небудзь спартовую гульню. Ведаю, што шмат хто скажа: „я-ж ня дзіця, каб гуляў, я-ж дарослы чалавек". Вось такі моцна памыліцца, бо час ад часу пагуляць патрабуе кожны, а дарослы, што быццам ня хоча гуляць на паветры, пойдзе да хаты і там аддасца нездаровым гульням у карты, або языком меле пустое.

Кожная вёска павінна ведаць, хто ў вёсцы найлепшы бегач, хто найдалей кідае каменьні, хто найдалей і найвышэй скача, хто найдужэйшы, хто найлепш плавае і г. п.

Напэўна знойдзецца ў кожным мястэчку, вёсцы хлапец, што служыў у войску, дый выслужыў мо' якую рангу, такі (калі не сядзеў дзе пры кухні) будзе больш-менш абзнаёмлены з найбольш распаўсюджанымі галінамі спорту, прадусім з лёгкай атлетыкай. Вось такі хлапец павінен парупіцца распаўсюджваньнем спорту паміж кумпанамі і арганізаваць спартовыя, ведамыя яму гульні.

Рэдакцыйная калегія „Шляху Моладзі" ахвотна прыме карэспандэнцыі, апісываючыя спартовае дзеяньне на вёсцы і будзе ахвотна служыць сваімі парадамі; таксама будзе зьмяшчаць у кутку для спорту прозьвішчы асобаў, пабіўшых у чым-небудзь вясковы рэкорд.

Моладзь, адгукніся! Чакаем. Пан ка

# Хроніка

### З беларускага жыцьця.

Сьвяткаваньне 13-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. 25-га сакавіка с. г. Беларускі Нацыянальны к-т з прычыны 13-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ладзіў урачыстую акадэмію ў салі дому на Завальнай вул. № 1. Акадэмію пачаў уступным словам старшыня Бел. Нац. К-ту В. Багдановіч, заклікаючы прысутных ушанаваць, паўстаньнем з мейсца, памяць усіх згінуўшых у барацьбе за незалежнасьць бацькаўшчыны, а хор Віленскага Аддзелу Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры прапяяў беларускі нацыянальны гымн „Не пагаснуць зоркі ў небе.“ Пасьля гэтага інж. Ад. Клімовіч прачытаў вельмі добра апрацаваны рэфэрат: „Шляхам незалежнасьці.“ Па рэфэраце вітаў беларускае грамадзянства прадстаўнік ад літоўскага народу, старшыня Літоўскага Тымчасовага К-ту гр. К. Сташыс, прадстаўнік украінскіх студэнтаў В. Крахмалюк, прадстаўнік літоўскіх студэнтаў студ. Марцінкенас і адчытаны былі надасланыя прывітальныя тэлеграмы і пісьмы, паміж іншымі ад цэнтральнае беларускае студэнскае арганізацыі АБСА з Прагі, інж. Лаўскага, праф. Віл. Унівэрсытэтаў В. Станевіча, Я. Быліны. На заканчэньне хор пад кіраўніцтвам гр. П. Карузы, б. пасла, і Я. Пешкі прапяяў некалькі беларускіх песьняў. Грамадзянка Ганна Душэўская прыгожа прапяяла тры народныя беларускія песьні і арыю з опэры „Гугеноты.“ У часе перарываў гр. А. Шутавічарка і гр. Крывец прыгожа дэклямавалі беларускія патрыётычныя вершы. Уражаньні вынесеныя з сьвяткаваньня яскрава гавораць аб тым, што ідэя незалежнасьці сярод беларускага народу ня гіне, а што-раз больш паглыбляецца.

Суд над Рэдактарам і Выдаўцом „Шляху Моладзі. Суд над Рэдактарам „Шляху Моладзі Мар'янам Пяцюкевічам і выдаўцом Я. Багдановічам за сканфіскаваны № 4 з 1930 г. „Шляху Моладзі“ адбудзецца 20 траўня с. г. у Віленскім Акружным Судзе.

Агульны сход сяброў Беларускага Каапэратыў-

нага Банку ў Вільні мае адбыцца 26 красавіка с. г. у памешканьні Банку, Каралеўская вул. № 3.

Выстаўка. 28 і 29 сакавіка с. г. у памешканьні Віл. Бел. Гімназіі адбылася выстаўка беларускіх этнаграфічных абразоў ведамага беларускага мастака Я. Драздовіча і фатаграфіяў гр. Грыневіча. На выстаўцы гэтай былі таксама абразы ведамага беларускага мастака Я. Сяргіевіча.

Матура. 5 траўня распачнуцца ў Віл. Беларускай Гімназіі матуральныя экзамены, да якіх мае прыступіць 30 вучняў 8-ае клясы гэтае гімназіі.

Юр'е і чырвонае яйко. Віленскі Аддзел Беларускага Інстытуту маніцца наладзіць у гэтым годзе вечарыну „Юр'е і чырвонае яйко" і супольную прагулку. Мае гэта адбыцца 9 і 10 траўня. У часе вечару — „чырвонае яйко" гр. М. Пяцюкевіч прачытае рэфэрат аб Юр'і. Запісвацца ў кнігарні „Папоні."

З выдавецкае нівы. Нядаўна вышлі з друку наступныя новыя беларускія кніжкі: „На што і як зьбіраць географічныя і асабовыя назовы беларускія." — Б. Скарыніча, другім выпускам пасьля канфіскаты; „Swiaty Rym", выдавецтва „Chryścijanskaje Dumki," цана 40 гр., „Інструкцыя і Рэгулямін Беларускага Інстытуту Гаспадаркі Культуры."

### З Усходняе Беларусі.

Масавыя арышты. Як падаюць газэты, у Усходняй Беларусі нядаўна адбыліся масавыя арышты сярод красна-армейцаў, бо быццам выкрылі там проціўкамуністычную арганізацыю, якая мела на мэце выступіць проціў камуністычнае ўлады і змагацца за незалежнасьць Беларусі. Да арганізацыі гэтае належалі і красныя афіцэры.

### З жыцьця беларусаў у Амэрыцы.

„Беларуская Трыбуна". Пасьля перарыву ў Амэрыцы ў м. Чыкаго пачала ізноў выходзіць беларуская газэта п. н. „Беларуская Трыбуна". Кірунак газэты чыста нацыянальна-беларускі незалежніцкі. Рэдактарам газэты ёсьць гр. Язэп Варонка. Варта адзначыць, што амэрыканскія беларусы жывуць у вельмі блізкіх і прыяцельскіх зносінах з амэрыканскімі ўкраінцамі і літоўцамі.

Беларуская прамова па радыё. 8 лютага с. г. а гадз. 5-ай па паўдні сябра Ўраду Беларуска-Амэрыкан-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*
**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

скага Саюзу Антон Змагар прамаўляў па беларуску праз радыё да беларусаў эмігрантаў у Чыкаго ў справе выбараў у Гарадзкую Раду м. Чыкаго.

### З Польшчы.

53 мільёны злотых нястачы і абніжэньне пэнсіі ўрадаўцам. Прэзыдыюм Міністраў падало да агульнага ведама, што буджэтны 1930-31 год закончыўся нястачай у суме 53 мільёнаў злотых. Дзеля гэтага-ж, каб утрымаць буджэтвую раўнавагу, пастаноўлена абнізіць урадаўцам пэнсіі на 15 працэнтаў.

Надзвычайная сэсія Сойму мае быць склікана на 23 красавіка.

Катастрофы. Апошнім часам вельмі часта здараюцца аэрапляннныя катастрофы польскіх лятуноў.

### З заграніцы.

Нямеччына з Аўстрыяў падпісала мытны дагавор, які яшчэ бліжэй луча абедзьве дзяржавы, як гаспадарча так і палітычна, што вельмі не на руку для Францы і Польшчы.

— С. С. Р. Р. з Нямеччынай наладжваюць лепшыя адносіны, што таксама ня сусім на руку іншым эўрапэйскім дзяржавам, як Францыі і яе саюзьнікам, якія кожны саюз Нямеччыны з іншымі дзяржавамі ўважаюць за падмінаваньне супакою ў Эўропе.

— У Гішпаніі адбыліся выбары ў парлямант, у часе якіх рэспубліканская партыя ўзяла верх, а праваліліся манархісты; з гэтай прычыны гішпанскі кароль Альфонс XIII адрокся ад улады і выехаў заграніцу. Цяпер Гішпанія ўжо дзяржава не манархістычная, а рэспубліканская.

— Каталёнія, якая была пад заборам Гішпаніі, скарыстала з цяперашняе завярухі ў Гішпаніі і абвесьціла сваю незалежнасьць. Такім чынам цяпер у Эўропе ўжо будзе адной дзяржавай, Каталёніяй, больш. Жадаем ёй пасьпеху і дай-жа Божа, каб іншыя народы, якія ня маюць сваей дзяржавы, незалежвасьці, у як найхутчэйшым часе дасягнулі свае мэты.

— Жыхары выспы Мадэры, дзе нядаўна адпачываў маршалак Польшчы Я. Пілсудзкі, знаходзячыся пад панаваньнем Португаліі, таксама дамагаюцца незалежнасьці. Цяпер там паўстаньне. Сваю дзяржаву хочуць назваць Атлянтыда.

— У Партугаліі такжа рэвалюцыя.

# Усячына.

161,006,200 ЖЫХАРОЎ. Паводле апошняе перапісі цяпер у С.С.Р.Р. ёсьць 161,006,200 жыхароў.

6 КАРАБЛЕЎ. Цэнтральны Савет Осоавіахіма ў С.С.Р.Р. пастанавіў зрабіць зборку грошай на будову новых 6 караблёў, якія будуць называцца: „Ленін", „Сталін", „Праўда", „Клім Варашылаў", „Калхознік" і „Осоавіахім".

50.000 КІЛЯГРАМАЎ ЗОЛАТА. 5-га красавіка бальшавікі перавозілі праз Латвію ў Нямеччыну 8-ы транспарт золата. Усяго золата перавезена праз Латвію з С.С.Р.Р. у Нямеччыну больш як 50.000 кілягрaмаў.

БЕЗРАБОЦІЦА. Паводле апошняе статыстыкі на цэлым сьвеце ёсьць цяпер больш як 18 мільёнаў безработных. У Польшчы безработных налічаецца больш як 375 тысяч асоб.

З АНГЛІІ Ў АЎСТРАЛІЮ. Ангелійскаму лятуну Скоту ўдалося праляцець з Англіі ў Аўстралію за 9 дзён і 21 гадзіну.

ЗЛІКВІДАВАНА 120 ПРАДПРЫЕМСТВАЎ. За месяц сакавік г. г. у Варшаве зьліквідавалася 83 прамысловых і 37 гандлёвых прадпрыемстваў.

ЗЕМЛЯТРАСЕНЬНЕ. Нядаўна ў сярэдняй Амэрыцы ў рэспубліцы Нікарагуу ў ваколіцах і ў самым месьце Манагуя, сталіцы рэспублікі, было вялікае землятрасеньне. Места цэлае ў руінах, шпіталь і вастрох заваліўся, прыдушваючы на сьмерць знаходзячыхся там людзей у ліку 1500 асоб. Усіх забітых налічаецца каля 5.000 асоб.

26 МІЛІЕНАЎ АЎТАМАБІЛЯЎ. Цяпер у Злучаных Станах Амэрыкі ёсьць у ужываньні больш як 26 мільёнаў аўтамабіляў.

9.000 КІЛЯМЭТРАЎ. Францускім лятуном Мерноцу і Полярду ўдалося ўстанавіць новы ўсясьветны рэкорд даўжыні лятаньня, яны за 54 гадзіны праляцелі 9.000 кілямэтраў.

СУД НАД ВЯЛІКІМ ПРАСТУПНІКАМ. У Нямеччыне ў м. Дусельдорфе адбываецца суд над вялікім тамашнім праступнікам Кюртенам, які 9 асоб забіў, 7 хацеў забіць, але яму не ўдалося, і 20 раз падпаліваў жыхарскія будынкі. Суд гэты выклікаў вялікае зацікаўленьне, зьехалася туды вельмі шмат журналістаў з усяго сьвету. Суд патрывае некалькі дзён.

ПАД ВАДОЙ І ПАД ЛЕДАМ НА ПАЎНОЧНЫ ПОЛЮС. Амэрыканскі вучоны Вількінс хоча даехаць да паўночнага полюса на адумыслова збудаванай падводнай лодцы „Наутілюс". Падарожу сваю, якая выклікае вялікае зацікаўленьне, Вількінс думае адбыць у працягу 2 - 3 месяцаў.

125 КІЛЯМЭТРАЎ НА ГАДЗІНУ. У Нямеччыне выпрабаваны цягнік новае канструкцыі, які ў гадзіну праяжджае 125 кілямэтраў. Проба ўдалася і гэтак ужо будзе хадзіць некулькі такіх цягнікоў.

# Наша Пошта.

Маладому мястачковаму хлапцу. Карэспандэнцыю Вашу з вялікай ахвотай паправілі-б і напрукавалі-б, але яна напісана вельмі не выразна, а дзеля таго, што апісваюцца ў ёй важныя здарэньні, якіх трудна дакладна адчытаць і паправіўшы надрукаваць, — дык просім напісаць выразьней, падаць да ведама рэдакцыі сваё імя, прозьвішча і адрас, і прыслаць у рэдакцыю, і тады надрукуем.

Карболю. За добрыя словы і прысланыя матэр'ялы шчыра дзякуем, як бачыце ўжо карыстаем, просьбу спаўняем, просім не забываць.

Селяўку В. „Шлях Моладзі" Вам высылаецца і чакаем абяцанае падпіскі.

Жуку А. Верш атрымалі, памагчымасьці пастараемся выкарыстаць.

Г. Рудко „Шлях Моладзі" Вам высылаем, безплатны дадатак (календары) вышлем па атрыманьні грошай.

Л. Атрахімовіч і Жалюбчыку. За прысланае дзякуем, выкарыстаем. Просім не забываць.

Грошы атрымалі ад: Міхаеля Базыля 3 зл., Тарасэвіча Тодара, Уладыслава Сулеўскага, Еўгенія Чэрняка па 2 зл.; Путрыча Мікалая і Багдановіча Павала па 1 зл. Усім шчыра дзякуем, „Шлях Моладзі" пасылаем.